**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 4.50, 21.23, 16.33;
Віцебск — 4.33, 21.20, 16.47;
Магілёў — 4.40, 21.12, 16.33;
Гомель — 4.43, 21.03, 16.20;
Гродна — 5.05, 21.38, 16.33;
Брэст — 5.15, 21.29, 16.14.

**МЕСЯЦ:**

Апошняя чвэрць 24 мая

**ІМЯНІНЫ:**

Макара, Аляксандра, Георгія, Ірыны; Філіпа.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

27 МАЯ 1992 г. серада, № 105 (21883)

● цана 50 кап.


## РОЗГАЛАС

## РАЗЛІКОВЫЯ БІЛЕТЫ: ПРАЦЭС ПАЙШОЎ.

### АЛЕ САВЕЦКІ РУБЕЛЬ ПАКУЛЬ ШТО МАЕ ПЕРАВАГУ

**Увод разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі, як мы і меркавалі, выкліча больш пытанняў, чым было дадзена адказаў на іх перад 25 мая. Народ, многага не зразумеўшы, хвалюецца, да таго ж, у першы дзень падлілі масла ў агонь і некаторыя работнікі прылаўка, якія адмаўляліся прымаць беларускі рубель у якасці плацежнага сродку.**

У аўторак сітуацыя крыху праяснілася. Ва універсаме «Рыга», у магазіне «1000 дробязей», напрыклад, білеты ідуць поўным ходам: насельніцтва, доўгі час не бачыўшае зарплаты, пенсій і г. д. і атрымаўшае іх нарэшце беларускай валютай, кінулася атаварвацца. З прылаўкаў імкліва знікаюць любыя рэчы, больш-менш прыдатныя ў гаспадарцы. А рынак жа наш, як вядома, не бяздонны, таму разліковыя білеты могуць адыграць і сваю адмоўную ролю: з прылаўкаў будзе змецена ўсё, што можна.

Між тым, у некаторых прадуктовых магазінах мікрараёна «Уручча» сталіцы разліковыя білеты браць адмаўляюцца. Жанчына, якая пазваніла ў рэдакцыю, сказала, што тут, як заявілі прадаўцы, білеты будуць прымацца толькі з 1 чэрвеня. Хацелася б нагадаць у сувязі з гэтым, што Нацыянальным банкам вызначана дакладная дата: 25 мая і без абмежаванняў. Тут пытанняў не павінна быць.

У магазіне «Дары прыроды», што па вуліцы Казлова ў Мінску, у панядзелак беларускія рублі таксама не прымаліся. Дырэктар магазіна растлумачыла нам, што не мелі наконт гэтага дакладных указанняў і не ведалі, як рабіць разлік, чым даваць рэшту, а таму двум чалавекам давялося адмовіць. З 26-га разліковыя білеты бяруцца без пытанняў, праўда, многія пакупнікі просяць рэшту ўсё ж у савецкіх рублях, тлумачачы гэта тым, што ім трэба вяртаць даўгі, якіх накапілася нямала ў час вымушанага безграшоўя.

Добра, калі гэта адзіная прычына, па якой людзі аддаюць перавагу рублям. Значна горш, калі ўжо з першых дзён у многіх падарвана вера ў магчымасць беларускага рубля.

## БЕЛАРУСКІ ПАШПАРТ, СЯРПАСТАГА-МАЛАТКАСТАГА СЫН

**МІНСК. (БелаПАН). На пасяджэнні камісіі БНФ па культуры разгледжаны пытанні, звязаныя са стварэннем беларускага пашпарта. Гучалі словы занепакоенасці тым, што такое важнае пытанне вырашаецца кабінетным шляхам.**

Члены камісіі адназначна выказаліся за беларускамоўнае афармленне пашпартоў, за традыцыйныя для беларускай мовы імёны, імёны па бацьку і прозвішчы (напрыклад: «Даніловіч Алесь Міхайлаў сын», «Траяноўская Вольга Петрусёва дачка» і г. д.) Прызнана неабходным рабіць запісы ўсіх уласных імёнаў у пашпарце не толькі кірыліцай, але і беларускай лацінкай — каб не было непаразуменняў у любых краінах свету з лацінанапісаннем. На пасяджэнні таксама вырашана правесці ў чэрвені «круглы стол» з удзелам вучоных і прадстаўнікоў зацікаўленых міністэрстваў, на якім і разгледзець праблемы, звязаныя са стварэннем беларускага пашпарта.

## АНГЛІЙСКІЯ ВПС У ГОСЦІ ДА НАС

**Учора ў Беларусь прыбыла група ваенных з Вялікабрытаніі ў складзе трох чалавек, якую ўзначальвае падпалкоўнік ВПС Грыфітс. У Баранавічах гэта група правядзе ацэнку інфармацыі па асабоваму саставу і ўзбраеннях.**

**Візіт брытанскай дэлегацыі праходзіць у рамках венскага дакумента па ўмацаванню мер узаемнага даверу і супрацоўніцтва ў Еўропе і прадоўжыцца тры дні.**

## АПОШНІ ЗВАНОК



Яны не выбіралі гэты час, які перакрэсліў многія старонкі іх школьных падручнікаў. Час сам выбраў семнаццацігадовых юнакоў і дзяўчат, падвёў да парога гімназіі і сказаў: смялей, маладыя спадары, крочце ў жыццё, бо яно, нягледзячы ні на што, працягваецца.

Прынамсі з такімі словамі пра сённяшняе супярэчлівае і нялёгкае жыццё звярталіся да выпускнікоў школы-гімназіі пры Мінскім педінстытуце дырэктар школы Г. Дабрынеўская і рэктар ВНУ А. Караткевіч. Кіраўнік вышэйшай навучальнай установы завітаў на гімназісцкае свята не выпадкова: сёлетні выпуск рыхтаваўся па спецыяльнай праграме для далейшай вучобы ў педінстытуце.

Няхай спраўдзяцца надзеі выпускнікоў на дастойную будучыню, няхай з годнасцю працягваюць яны лепшыя традыцыі беларускага настаўніцтва. Талісманам у далёкі шлях ім стануць маленькія званочкі, падараваныя на развітальнай лінейцы. Няхай свеціць ім з гэтых званочкаў скарынінскае сонца адраджэння.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

## Прыём з выпадку ўручэння вярыцельнай граматы

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі Ван Сінда наладзіў 25 мая афіцыяльны прыём з выпадку ўручэння ім вярыцельнай граматы.

— Незалежнасць Беларусі, якую наша краіна прызнала адной з першых, стварае новы фундамент для двухбаковых адносін паміж Кітаем і Беларуссю,—сказаў пасол.

Ад імя ўрада сваёй краіны ён пажадаў поспехаў суверэннай Беларусі, выказаў гатоўнасць і жаданне Кітая супрацоўнічаць з рэспублікай, абменьваючыся з ёю вопытам і дасягненнямі ў эканамічнай, навуковай, культурнай сферах, у галіне аховы здароўя.

— Мы гатовы развіваць нашы ўзаемаадносіны з вялікай Кітайскай краінай, — сказаў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. —Няхай нашай агульнай мэтай стануць добрыя сувязі і кантакты, якія будуць служыць працвітанню абодвух народаў.

Кіраўнік беларускага парламента пажадаў кітайскім дыпламатам плённай дзейнасці ў хутчэйшым уладкаванні кітайскага пасольства ў Мінску і наладжванні яго работы ў поўным аб'ёме.

На прыёме прысутнічалі кіраўнікі Вярхоўнага Савета, беларускага ўрада, народныя дэпутаты, дыпламаты, прадстаўнікі грамадскасці рэспублікі.

(БЕЛТА).

## РАДЫЁФАКТ

**У сувязі з пачаткам работы місіі прадстаўнікоў Міжнароднага валютнага фонду ў Мінску першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Мясніковіч даў інтэрв'ю карэспандэнту праграмы «Радыёфакт». Ён, у прыватнасці, адзначыў каштоўнасць супрацоўніцтва з Міжнародным валютным фондам і падобнымі арганізацыямі. «Гэта дазволіць хутчэй інтэгрыравацца Беларусі ў сусветную эканамічную сістэму. Супрацоўніцтва з МВФ дасць адпаведныя гарантыі і крэдыты для стабілізацыі эканомікі Рэспублікі Беларусь у перыяд правядзення рэформ».**

**М. Мясніковіч мае намер пазнаёміць замежных гасцей з новай праграмай прадухілення спаду вытворчасці, якая распрацоўваецца ў Саўміне. Яна мае выключна рынкавы характар і не грунтуецца на так званых «непапулярных» мерах.**

***

26 мая ў Мінску пачалася другая міжнародная дзелавая сустрэча прадпрымальнікаў «Бізнес без межаў». У ёй удзельнічаюць прадстаўнікі дзелавых колаў з усіх рэспублік былога Саюза, за выключэннем Таджыкістана і Кіргізіі.

На сустрэчу запрошаны прадстаўнікі замежных пасольстваў, акрэдытаваных у Мінску, а таксама заходняга бізнесу.

***

**Адразу восем эмбрыёнаў выяўлена ў выніку ультрагукавога абследавання ў цяжарнай 24-гадовай аргенцінкі Сільвіі дэ Аалуаці. Яна будзе змешчана ў спецыяльную клініку ў Буэнас-Айрэсе. Ёй захаваюць усе восем эмбрыёнаў да пяці месяцаў цяжарнасці. Пасля гэтага іх змесцяць у спецыяльны інкубатар, дзе і будзе праходзіць іх далейшае развіццё. Для Аргенціны такі выпадак унікальны.**

***

«На КПП «Варшаўскі мост» у Брэсце стала спакайней. Чэргаў няма. Аўтобусы з пасажырамі праходзяць па графіку хутчэй, чым за 12 гадзін». Пра гэта паведаміў карэспандэнту праграмы «Радыёфакт» старшы зменны дыспетчар групы новага незалежнага прадпрыемства — «Мытнясервіс». Не без радасці ў гэтым пераканаўся і журналіст, які на свае вочы бачыў тут раней шматкіламетровыя чэргі. Калі захочам— можам. Цяпер задача мясцовых улад дапамагчы развівацца новаму пачынанню.

Аднак мы не можам без лыжкі дзёгцю. Сёння на міжнароднай трасе Масква — Брэст вельмі складана заправіць аўтамабіль. У Брэсце гэту паслугу аказваюць толькі мясцовым жыхарам. Тое ж і ў Кобрыне. У Стоўбцах мінчан накіравалі на камерцыйную запраўку, дзе літр бензіну каштуе 25 рублёў. Такі вось мясцовы суверэнітэт у дзеянні.

***

**У свой час праграма «Радыёфакт» расказала пра недасканаласць рэспубліканскага заканадаўства, якое не дазваляе прыцягнуць да крымінальнай адказнасці махляроў, што скупляюць ордэны былога Саюза. Сёння мы маем адваротны прыклад. У Казанскім аэрапорце міліцыя затрымала транзітнага пасажыра, які ляцеў праз Чэлябінск у Вільнюс. У яго багажы аказалася 17 ордэнаў Леніна, якія ўдалося набыць па аб'яве ў чэлябінскай газеце. Адказваць па закону Расіі давядзецца не толькі яму, але, відаць, і прадаўцам дзяржаўных узнагарод.**

***

Экс-чэмпіён свету па шахматах Анатоль Карпаў, нягледзячы на паражэнне ў паўфінальным матчы прэтэндэнтаў, настроены вельмі аптымістычна: «Я не пераможаны. Адно паражэнне (ад англічаніна Найджэла Шорта) не азначае, што мая кар'ера завяршылася». Карпаў лічыць, што прайграў у выніку лішняй самаўпэўненасці. Ён спадзяецца ўзяць рэванш у наступным розыгрышы першынства свету і зноў сустрэцца са сваім галоўным сапернікам Гары Каспаравым.

Да гэтага Карпаў мае намер давесці колькасць сваіх перамог у міжнародных турнірах да ста. Ён выйграў ужо 92 такія спаборніцтвы.

## УЛЕТКУ ДУМАЙ ПРА ЗІМУ

**МІНСК. Здаецца, яшчэ зусім нядаўна скончылася зіма, а ў Мінгарвыканкоме ўжо разглядаецца пытанне «Аб падрыхтоўцы гарадской гаспадаркі да работы ў асенне-зімовых умовах сезона 1992—1993 гадоў».**

У кожным раёне горада будуць распрацаваны мерапрыемствы па ліквідацыі магчымых аварыйных становішчаў у перыяды рэзкага пахаладання.

Вытворчаму аб'яднанню «Мінскэнерга» даручана нават прапрацаваць варыянты адключэння шэрагу прадпрыемстваў і арганізацый у час такіх сітуацый дзеля нармальнага забеспячэння энергіяй бальніц, дзіцячых дашкольных і школьных устаноў і жылля. Распачаты падрыхтоўка неабходнай тэхнікі і стварэнне запасаў матэрыялаў, інструменту і запасных частак. Усе гэтыя меры Мінгарвыканком даручыў выканаць да 1 кастрычніка г. г.

Правільна ў народзе кажуць: «На свята думай пра будзень, а ўлетку пра зіму». Такія аператыўныя дзеянні мінскіх гарадскіх улад павінны паслужыць лепшым прыкладам для выканкомаў іншых гарадоў Беларусі.

## МОСТ ДРУЖБЫ ЎСТАНОЎЛЕНЫ

Другі дзень знаходжання ўрадавай дэлегацыі Беларусі ў Кувейце пачаўся з паездкі ў правінцыю Ахмадзі. Вітаючы высокіх гасцей, губернатар правінцыі шэйх Махамед Саад аль-Садах заўважыў, што Ахмадзі — самы багаты нафтаносны раён краіны.

Пасля кароткай размовы ў губернатарстве Старшыня Савета Міністраў рэспублікі В. Кебіч і члены дэлегацыі накіраваліся ў раён дзеючай нафтаздабычы.

Дзіўнае відовішча паўстала перад вачамі беларускіх гасцей: чым далей шаша ішла ў пустыню, тым часцей па абодвух баках дарогі прама на зямной паверхні сустракаліся вялікія і малыя «азёры» нафты, якія ззялі пад гарачым сонцам сваім чорным, роўным, як шкло, масляністым люстэркам. Быццам гіганцкія свечкі, на велізарнай пустыннай прасторы ярка гарэлі факелы нядаўна адкрытых свідравін.

Кіраўніцтва дзяржаўнай нафтавай кампаніі Кувейта прадаставіла беларускім гасцям падрабязную інфармацыю аб стане нафтаздабычы і асаблівасцях выкарыстоўваемай тэхналогіі. Асаблівую цікавасць выклікаў у прадстаўнікоў Беларусі агляд нафтавай свідравіны, якую па просьбе кувейцкага ўрада ратавалі ад пажару пасля іракскай агрэсіі рускія спецыялісты.

Сляды вайны ўсюды відаць у Кувейце. Старшыня Савета Міністраў Беларусі пабываў у разбураным гарадскім квартале, дзе вялі гераічны бой з іракскімі захопнікамі маладыя патрыёты Кувейта. Цяпер тут арганізаваны музей пад адкрытым небам. Адбыўся таксама агляд ваеннай тэхнікі Ірака, у вялікай колькасці захопленай многанацыянальнымі кааліцыйнымі сіламі.

Хвалюючая сустрэча чакала беларускую дэлегацыю ў Нацыянальным камітэце па справах палонных і прапаўшых без весткі кувейцкіх грамадзян. Жонкі, маці, дзеці прасілі В. Кебіча і беларускі народ аказаць ім дапамогу ў вяртанні з Ірака палонных бацькоў, мужоў і сыноў, са слязамі на вачах расказвалі аб жахах палону і зверствах іракскіх акупантаў.

— Як ніхто іншы мы разумеем ваша гора, — сказаў В. Кебіч. — Народ Беларусі ў поўнай меры зведаў на сабе жахі фашысцкай акупацыі, і таму мы зробім усё магчымае, каб патрабаванні ААН аб выдачы Іракам кувейцкіх ваеннапалонных былі няўхільна выкананы.

У другой палавіне дня кіраўнік беларускай дэлегацыі сустрэўся з міністрамі абароны і нафтавай прамысловасці Кувейта, з радам кіраўнікоў прыватных фірм і кампаній.

Асаблівую зацікаўленасць у развіцці сяброўскіх сувязей з Беларуссю выказаў дырэктар кувейцкага Фонду эканамічнага развіцця арабскіх краін пан Бадэр аль-Хумайдзі, які паведаміў аб рашэнні фонду выдзеліць Беларусі 40 мільёнаў амерыканскіх долараў у якасці даўгачаснага першапачатковага крэдыту.

Вечарам адбылося падпісанне важных міждзяржаўных дакументаў: пратакола аб устанаўленні дыпламатычных адносін і пагаднення аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Кувейтам. Прынята таксама сумеснае камюніке, у якім выкладзены погляды бакоў на праблемы, якія маюць узаемную цікавасць.

Затым міністр фінансаў Кувейта Насэр Абдала ар-Радан наладзіў урачысты прыём у гонар кіраўніка ўрадавай дэлегацыі Беларусі В. Кебіча.

— У Кувейце мы адчулі шчырую гасціннасць вашага народа, — падкрэсліў, выступаючы на прыёме, Старшыня Савета Міністраў нашай рэспублікі.

В. Кебіч перадаў запрашэнне вышэйшаму кіраўніцтву Кувейта наведаць Беларусь у зручны час.

Візіт у Кувейт завершаны. 26 мая раніцай адбылася ўрачыстая цырымонія провадаў беларускай дэлегацыі. Ля трапа самалёта В. Кебіча і членаў дэлегацыі праводзілі прэм'ер-міністр Кувейта Яго Высокасць наследны прынц Саад аль-Абдала, міністры, іншыя афіцыяльныя асобы. Шэйх Салем ас-Сабах сказаў: «Мост дружбы паміж Кувейтам і Рэспублікай Беларусь устаноўлены. Жадаю шчасця і працвітання беларускаму народу».

У той жа дзень урадавая дэлегацыя Беларусі прыбыла ў Ізраіль.

**Васіль ДРАГАВЕЦ,**
**(па тэлефоне спецыяльна для БЕЛТА).**

## «Д'ЯБЛУ І БОГУ» ПАТРЭБНА ДАПАМОГА

**Здымкі новага тэлевізійнага чатырохсерыйнага мастацкага фільма «Д'яблу і Богу» пачаў на кінастудыі «Беларусьфільм» вядомы беларускі кінарэжысёр Барыс Сцяпанаў. Гледачы помняць яго папулярныя кінастужкі «Альпійская балада», «Францыск Скарына», «Дзяржаўная граніца»...**

Героем новай кінастужкі стала гістарычная асоба — беларускі філосаф, асветнік і вучоны Казімір Лышчынскі. Ён нарадзіўся ў XVII стагоддзі ў вёсцы Лышчыцы на Брэстчыне. Сваім сынам лічаць яго тры народы: беларускі, польскі і літоўскі. За праўду, якую ён нёс людзям, Лышчынскі паплаціўся жыццём.

На галоўную ролю запрошаны 30-гадовы акцёр Вялікага драматычнага тэатра Санкт-Пецярбурга Міхаіл Марозаў. Здымаюцца тут і беларускія выканаўцы Генадзь Гарбук, Расціслаў Янкоўскі і іншыя.

Прэм'ера фільма на тэлебачанні павінна адбыцца ў канцы 1993 года. Адначасова рыхтуецца і двухсерыйны варыянт фільма для кінатэатраў. Але ў здымачнай групе пануюць маркота і разгубленасць за яго лёс. На думку стваральнікаў, гістарычная асоба можа памерці ў другі раз, таму што не хапае сродкаў на здымкі фільма. Трэба выратаваць нацыянальную гістарычную кінастужку. Хочацца верыць, што знойдуцца спонсары. Званіць на кінастудыю «Беларусьфільм» па тэлефоне 64-32-04.

**Алег ПРАЦЬКО.**

## «СЛУЖУ РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ!»

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч уручыў учора вялікай групе прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі ўзнагароды рэспублікі — пасведчанні і нагрудныя знакі аб прысваенні ганаровых званняў і Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь за вялікі ўклад у развіццё галін народнай гаспадаркі і дасягнутыя поспехі ў навуцы, культуры і мастацтве.**

**Па-рознаму рэагавалі ўзнагароджаныя, прымаючы з рук кіраўніка парламента ганаровыя пацвярджэнні іх заслуг ад імя маладой суверэннай дзяржавы. Але больш за ўсё кранула кароткае: «Служу Рэспубліцы Беларусь!» Уладзіміра Раманава — старшага навуковага супрацоўніка Інстытута крыміналогіі і судовай экспертызы.**

**Менавіта неабходнасць уносіць свой пасільны ўклад у фундамент будаўніцтва новай дзяржавы — «новай Беларусі» адзначыў у сваёй прывітальнай прамове Станіслаў Шушкевіч. Цёпла і сардэчна павіншаваў ён узнагароджаных, пажадаў ім добрага здароўя, шчасця і поспехаў.**

# КАМАНДЗІРОЎКА НА ВАЙНУ

## Наш карэспандэнт толькі што пабываў у зоне баёў у Прыднястроўі і падрыхтаваў адтуль серыю рэпартажаў

### Два берагі Днястра: размова на мове гармат

**Сёння, калі парламент Малдовы вырашае, ці аб'яўляць усеагульную мабілізацыю і ці лічыць сябе ў стане вайны з Расіяй, вайна ўжо грыміць на Днястры.**

Тут свае, — не падобныя і не прывычныя нам, — уяўленні пра жыццё і смерць.

Віктар Дзюкараў, жыхар Дубасар і дэпутат парламента Малдовы, настойліва даводзіў мне, што зладзеяў у горадзе трэба «расстрэльваць на месцы — міндальнічаць тут няма чаго». Тэма марадзёрства — актуальная для горада. Пакінутыя дамы — апетытны кавалак для тых, хто не супраць нажыцца на народным горы. Мне здаецца, менавіта боязь страціць у адно імгненне ўсё нажытае цяжкай працай, няпэўнасць перад будучыняй, у якой іх, бежанцаў, ніхто і нідзе не чакае — стрымлівае многіх жыхароў горада ад таго, каб неадкладна пакаваць чамаданы.

— Я — беларуска. Мяне завуць Лідзія Кушнір, па мужу — Дахноўская. Мае бацькі жылі ў вёсцы Агародня на Гомельшчыне, — яны былі рэпрэсіраваны ў 1929 годзе за тое, што мелі карову. Я хоць сёння гатова выехаць адгэтуль. Але хто мяне прыме, каму я патрэбна там? — ледзь не галасіла на прыступках гарвыканкома пажылая жанчына.

У дом, дзе жыве Віктар Дзюкараў, за апошні час трапілі дзве ракеты «Алазань», — адна ўзарвалася на другім паверсе, другая — на лесвічнай пляцоўцы чацвёртага, якраз перад дзвярыма кватэры Віктара Васільевіча. Узрыўная хваля вынесла дзверы і вокны. Але ехаць з Дубасар Дзюкараў не збіраецца:

— Я тут буду да пераможнага канца. Думаю, што і жанчыны пакінуць горад не ўсе. Скажу больш: нават калі паступіць загад пакінуць пазіцыі — нашы людзі гэтага не зробяць. Яны хутчэй зменяць уладу, якая аддасць такі загад.

З пачатку канфлікту ў Дубасарах загінула каля ста чалавек. Множыцца колькасць тых, хто страціў мужа, брата, бацьку. Акропленая крывёю, нянавісць перарастае межы, у якіх яе можна было спыніць сілай аргументаў, загадаў, разважнага сэнсу. Ад усведамлення гэтага становіцца страшна, бо пачынаеш разумець, што без яшчэ большай крыві на гэтай зямлі, нашпігаванай азлобленасцю і зброяй,—не абыдзецца.

За што кладуць галовы прыднястроўцы ў барацьбе з «антынародным нацыяналістычным урадам Малдовы, які хоча далучыць краіну насуперак волі яе грамадзян да суседняй Румыніі, які падаўляе ўсякае іншадумства, які ігнаруе думку прыднястроўцаў, выказаную на рэферэндуме» (узятае ў двукоссі можна знайсці ў любым нумары цірааспальскай «Днестровской правды»). За што аддаюць жыцці малдаўскія паліцэйскія і жыхары другога берага Днястра, змагаючыся з «сепаратыстамі, узброенымі бандамі, смірноўскімі катамі і іх прыспешнікамі, якія хочуць разарваць на часткі краіну ў інтарэсах праімперскіх сіл Масквы» (цытата — тыповая для любой афіцыйнай кішынёўскай газеты).

Я ўжо згадваў у папярэднім рэпартажы: водараздзел пралёг не па нацыянальнай прыкмеце. На левым беразе Днястра — каля 40 працэнтаў малдаван і толькі 24 працэнты — рускіх. Але, мяркуючы па выніках рэферэндуму, пераважная большасць насельніцтва падтрымлівае Цірасполь. Вузкая паласа на левым беразе Днястра — гэта толькі восьмая частка тэрыторыі Малдовы і шостая частка — насельніцтва. Але тут сканцэнтравана трэць прамысловага патэнцыялу краіны. Летась Прыднястроўе, выдаткаваўшы на сацыяльныя патрэбы 400 мільёнаў тагачасных рублёў (пры насельніцтве 742 тысячы), пералічыўшы 180 мільёнаў Кішынёву, стварыўшы, узброіўшы, апрануўшы ўласнае войска, — звяло канцы з канцамі і нават атрымала 140 мільёнаў прыбытку. Прывілеяванае становішча Прыднястроўя лепш за ўсё адчуваеш тады, калі заходзіш у цірааспальскія магазіны і параўноўваеш іх з кішынёўскімі. Цэны на левым беразе значна ніжэйшыя. У адным з цірааспальскіх кафэ я аддаў за абед менш 15 рублёў. У кішынёўскім за амаль такія ж стравы выклаў каля сотні.

Усё гэта—на фоне чырвона-зялёных флагаў Савецкай Малдавіі, якія развяваюцца над усімі афіцыйнымі будынкамі ў прыднястроўскіх гарадах, на фоне ранейшых «камуністычных» назваў вуліц, дагледжаных помнікаў Ільічу, малдаўскіх надпісаў, выкананых «кірыліцай», а не «лацінкай», як у Кішынёве, і малаткаста-сярпастага герба з гронкамі вінаграду і ўзыходзячым сонцам.

Не выключаю, што для радавога грамадзяніна, які не надта арыентуецца ў гульнях палітыкаў, адносны дабрабыт напрамую звязаны з гэтымі сімваламі. Адсюль і шчымлівая настальгія па СССР, якая адчуваецца не толькі на старонках мясцовых газет, але і ў звычайных бытавых размовах, якія пачуеш у транспарце ці чарзе ў магазіне. Адсюль— праклёны ў адрас Гарбачова і Ельцына, што таксама не прапагандысцкі прыём улад.

Шаўрон у форме чырвона-зялёнага сцяга — на форме амаль кожнага гвардзейца ці апалчэнца Прыднястроўя. Яны паміраюць пад гэтым сімвалам. Для іх ён менш за ўсё — сімвал камунізму, а больш за ўсё — памяць аб тых часах, калі пад гэтым флагам на гэтай зямлі не было крыві і гора.

На тым баку, дзе на берэтах і мундзірах валанцёраў сіне-жоўта-чырвоныя кукарды новай Малдовы, — глядзяць за Днестр, на нікім не прызнаную Прыднястроўскую Малдаўскую Рэспубліку, як на плацдарм бальшавізму і праімперскіх расійскіх сіл. Для іх чырвоны колер — колер імперыі. Для гвардзейцаў Прыднястроўя сіне-жоўта-чырвоныя сцяжкі над БТР-амі праціўніка — сімвал Румыніі.

...Да плаціны Дубасарскай ГЭС мы прабіраліся апоўдні, — кажуць, тады верагоднасць абстрэлу найменшая: і на тым, і на гэтым баку якраз палуднуюць. Адкрыты ўчастак — дарогу на насыпе — пераадольваем бягом, па аднаму. Нас шмат, залішне шмат, — акрамя здымачнай групы «Астанкіна», прыбіліся журналісты з «Московских новостей» і рэпарцёр з нейкай брытанскай тэлекампаніі з партатыўнай відэакамерай праз плячо. А яшчэ — чацвёра гвардзейцаў — наша ахова.

Ля плаціны і ўздоўж ракі — ціха, ні душы. Але ледзь паспяваем спусціцца з насыпу, як наверсе чуюцца аўтаматныя чэргі. Страляюць з таго боку — іх пазіцыі ў некалькіх сотнях метраў ад лагчыны, у якую мы спусціліся. Там, відаць, заўважылі нашу шматлікую групу і западозрылі нядобрае.

Адзін з трох казакоў, што ахоўваюць подступы да плаціны, зрываецца з месца і з аўтаматам у руках кідаецца наверх. Другі крычыць яму наўздагон:

— Ты ж глядзі, без стральбы дурной. А то яны дзесятак мін як пакладуць — мы ніхто адсюль не выйдзем. Тут у іх усё прыстраляна.

Казакі — маладыя хлопцы ў плямістых камбінезонах, з АКМ-амі ў руках, з прымацаванымі да пояса гранатамі з увінчанымі запаламі, — здзіўляюцца, што мы выбраліся сюды такой кампаніяй і не дужа спяшаючыся спускаліся па схілу, які, па іх словах, выдатна прыстраляны і куды амаль з ювелірнай дакладнасцю кладуцца міны.

Настроены казакі ваяўніча:

— Мы не паедзем адсюль, пакуль яны не прызнаюць Прыднястроўе і не ўбяруцца на свой бок.

Грошы іх мала цікавяць:

— Нават калі нам не будуць даваць той невялікай зарплаты (нешта каля тысячы рублёў у месяц), — мы ўсё роўна застанемся.

За кароткі час размовы я паспяваю даведацца, што родам казакі з розных мясцін, — адзін з Дона, другі з Церака, трэці з Сібіры; што іх мала хвалюе праблема жыцця і смерці, — яны стараюцца не думаць пра гэта; што адзін з іх учора «зняў» часавога; што за галаву казака на тым баку, па іх словах, даюць мільён румынскіх лей, а таму, хто «загасіць» атамана — увогуле грошай хопіць да канца жыцця.

Размова адбываецца на фоне гукаў, да якіх цяжка прывыкнуць майму цывільнаму вуху. Вось кароткія частыя адзіночныя стрэлы. «Снайпер працуе», — заўважае адзін з хлопцаў. Аддалены стрэл гарматы — «Танк з іх боку».

Вяртаемся да плаціны з намнога большай хуткасцю і асцярогай, чым ішлі туды. Гвардзейцы—пад уражаннем трупа забітага таварыша, прывезенага з таго боку (абмяняліся забітымі з паліцэйскімі).

— Уяўляеце, у яго чэрап раскроены надвое. Яны яму рыдлёўкай паўгалавы знеслі. Вы паедзьце ў морг, паглядзіце, здыміце для тэлебачання.

Сяргей Шатуноў, рэпарцёр з «Астанкіна», пераконвае іх, што па тэлевізару такіх жахаў усё роўна не пакажуць. І мы без прыпынкаў спяшаемся ў Цірасполь.

**Валянцін ЖДАНКО.**

г. Дубасары.
Прыднястроўе.

**(Заканчэнне ў наступным нумары).**

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

# «ВЫМІРАЕМ», ЯК МАМАНТЫ?

## У нас будзе самая высокаадукаваная ў свеце армія беспрацоўных

Гаварыць сёння пра навуковыя даследаванні даволі рызыкоўна. У наш эмацыянальны час, калі людзі азлоблены на ўсё і ўсіх, ставіць і вырашаць нейкія «нехарчовыя» праблемы не вельмі выпадае. Але ўсё ж давайце крыху паразважаем. Не хлебам адзіным жыў, жыве і будзе жыць чалавек. Нават цяпер нельга зводзіць усе надзённыя патрэбы да напаўнення страўніка. Не падумайце толькі, што навуковыя супрацоўнікі жывуць лепш за іншых і ў іх няма праблем. Што яны грабуць грошы шуфлем і ім нічога не значыць купіць патрэбную рэч. Спецыялісты вышэйшай кваліфікацыі (дактары і кандыдаты навук) у нашай акадэміі — адны з самых нізкааплачваемых не толькі ў параўнанні са сваімі калегамі з іншых краін (у тым ліку і з былых рэспублік былога СССР), але і ў параўнанні з многімі іншымі катэгорыямі працоўных у сваёй суверэннай Беларусі. Такога парадокса няма нідзе ў свеце. Калі б ён быў адзіным, было б паўбяды. Сёння ў нашай акадэмічнай навуцы куды ні кінь — усюды клін. Складваецца ўражанне, што з боку Вярхоўнага Савета, Саўміна і прэзідыума АН Беларусі (маецца на ўвазе стары яго састаў, бо зараз выбраны новы) не робіцца ніякіх захадаў, каб захаваць той навуковы патэнцыял, які займаецца фундаментальнымі даследаваннямі. Аб гэтым ішлі і ідуць толькі размовы, а практычна, як я лічу, не зроблена амаль нічога.

Зараз у акадэміі ідзе скарачэнне навуковых кадраў. Яго на паперы як бы і няма, але ж рэальна яно існуе. Сёння ніхто не дасылае навукова-даследчым інстытутам планаў скарачэння. Толькі куды падзецца, калі кожнае чарговае павелічэнне зарплаты (без чаго не абыдзешся, бо —інфляцыя) даводзіцца рабіць за кошт унутраных рэзерваў. А гэта кожны раз прыводзіць да скарачэння новай партыі супрацоўнікаў. Ужо адправілі на заслужаны адпачынак усіх навукоўцаў пенсіённага ўзросту. І разам з тым не скажаш, што стаўка на маладых. Зараз нават тыя з іх, хто зрабіў значны ўклад у навуку (асвоілі адпаведныя метады, маюць навуковыя публікацыі і г. д.), могуць у любы час трапіць пад скарачэнне. Тыя, што ўтрымаліся пакуль на сваіх месцах (некаторыя працуюць на паўстаўкі), упэўненасці ў заўтрашнім дні не адчуваюць. Калі адносіны да навукі ў рэспубліцы і ў далейшым не зменяцца, то армія беспрацоўных у суверэннай Беларусі будзе самай высокаадукаванай у свеце.

Сумна ўсё гэта, як некалі казаў вядомы даследчык і геолаг Гаўрыла Гарэцкі. Няхай не думае наша рэспубліканскае кіраўніцтва, што, не фінансуючы сёння належным чынам навуковых даследаванняў, заўтра, калі з'явяцца сродкі, яно набярэ новыя кадры і ўсё пойдзе сваім шляхам. Так не бывае. Для станаўлення беларускай палеанталогіі спатрэбілася ні многа ні мала — амаль 60 гадоў! Дарэчы, на прыкладзе нашых «цэхавых» праблем можна прадэманстраваць становішча навукі на Беларусі ў цэлым.

Дык чым жа займаюцца беларускія палеантолагі?

Здабытыя імі палеанталагічныя матэрыялы (рэшткі раслін і жывёл, якія захаваліся ў зямных слаях) дазваляюць высветліць прычыны змены флоры і фауны Беларусі, што мае выключна важнае значэнне пры вырашэнні агульных пытанняў аховы прыроды.

Па-другое, каб зразумець сучаснае, трэба добра ведаць мінулае, і толькі тады можна рабіць прагнозы на будучае. Гэта асабліва важна пры прагназіраванні клімату ў будучым, што звязана з планаваннем размяшчэння і ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур, а таксама размеркаваннем прамысловасці. Мэнавіта палеанталогія павінна даць дакладную ацэнку прыроднай абстаноўкі ў будучым.

Што ж сабой уяўляе беларуская палеанталогія зараз? Ідзе агульны для ўсіх дзяржаў СНД працэс: палеантолагі, а разам з імі і метады даследаванняў, «выміраюць», бы тыя маманты. Так што ў хуткім часе навукоўцаў гэтага профілю не застанецца ўвогуле. Гэта, на жаль, рэальнасць. Паглядзіце на лічбы. На Беларусі зараз працуе ў розных установах каля 50 палеантолагаў, з іх у флагмане беларускай навукі — акадэміі ўсяго 18 (з іх 2 дактары і 10 кандыдатаў навук). Многія напрамкі даследаванняў у нашай рэспубліцы не існуюць. Знікаюць нават тыя, што былі. Зараз палеантолагаў не рыхтуе ніводная наша ВНУ. У іншых краінах СНД — таксама. Што, ужо ўсё ведаем? Ды дзе там! Напрыклад, вывучэннем рэштак птушак, рыб, земнаводных і паўзуноў на Беларусі ніколі ніхто не займаўся.

Мая навука — на апошнім рубяжы. Сёння самы час павярнуцца тварам да палеанталогіі. І ўвогуле павярнуцца тварам да навукі.

**Пятрусь КАЛІНОЎСКІ,**
**палеантолаг, кандыдат геолага-мінералагічных навук.**
г. Мінск.

ТВАЁ СЛОВА, ЧЫТАЧ!

# Здароўе дзяцей ці «грабавыя»?

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Я ніколі ў газеты не пісала і таму загадзя прашу прабачэння, калі што не так.

Тры гады назад наша сям'я пераехала са Слаўгарадскага раёна. Там мы жылі ў невялічкай вёсачцы Слаўня. Жылі, як усе нармальныя людзі: купаліся, загаралі, пілі малако, збіралі і елі грыбы, ягады. Верылі ў тое, што ўсё было пра радыяцыю проста выдумка, ніякай радыяцыі няма. Маўляў, усе нашы хваробы натуральныя, хоць то аднаго, то другога сталі пасылаць на лячэнне — нібыта для прафілактыкі — у нейкі інстытут або ў Аксакаўшчыну.

І вось нечакана, праз тры гады пасля выбуху на ЧАЭС, мы даведваемся, што жыць так, як мы жылі раней, небяспечна. І нам, сям'і з 9-ці чалавек, прыйшлося пераехаць. Давялося кінуць родных, сяброў. Цяпер мы жывём на новым месцы. У нас з'явіліся новыя сябры. Стварылі сямейны ансамбль «Чаму ж нам не пець?», слава аб якім пайшла за межы Смалявіцкага раёна (кожны ў нашай сям'і валодае якім-небудзь музычным інструментам). Без нашай сям'і не абыходзіцца ніводнае раённае свята.

І ўсё ж вельмі хочацца на родную Магілёўшчыну. Калі мае бацькі апошні раз ездзілі дамоў, нашы былыя суседзі ім сказалі, што мы дарэмна пераехалі. І растлумачылі: тыя, хто там застаўся, цяпер вельмі шмат грошай атрымліваюць. Як жа было страшна пачуць гэта ад дарослых людзей, у якіх маленькія дзеці і Аксакаўшчына для якіх ператварылася ледзь ці не ў пастаяннае месца жыхарства. Няўжо можна прамяняць здароўе сваіх дзяцей на «грабавыя»?

Не разумею...

**Вера ШУВАЛАВА,**
**вучаніца 10 класа Драчкоўскай СШ.**
**Смалявіцкі раён.**

# Колькі вам гадоў?

Да нядаўняга часу было так: калі чалавек уладкоўваўся на работу, яму неабходна было абавязкова ўказаць партыйнасць, якая часта мела галоўнае значэнне пры вырашэнні пытання. Цяпер становішча змянілася карэнным чынам. Зараз першае пытанне: «Колькі вам гадоў?» І калі адміністратар пачуе, што больш шасцідзесяці, то размова заканчваецца ўвогуле адным: «Будзьце здаровыя...»

Мне здаецца, што гэта вельмі несправядліва. Узрост яшчэ не сведчыць пра здольнасці чалавека. Можа быць якраз наадварот: яго гады — багацце вопыту; ведаў, прафесіяналізму. Іншая справа ў армейскіх і фізкультурных арганізацыях. Там узрост сапраўды галоўны фактар. Яно і зразумела. Тут трэба мець моцнае здароўе і быць спрытным. Але, скажыце, ці так ужо неабходна волатаўскае здароўе педагогу, выкладчыку гісторыі, мовы, літаратуры, іншых прадметаў?

Уявіце сабе стан чалавека, які аддаў свае лепшыя, маладыя гады любімай справе і можа яшчэ выконваць абавязкі, як і раней, а яго проста выкідваюць з работы па адной прычыне — узросту?

Трэба мець на ўвазе і маральны фактар. Звольнены па ўзросту часта адчувае сябе лішнім, нікому не патрэбным да канца жыцця. Вы можаце запярэчыць: яму ж назначаецца пенсія, на якую ён можа існаваць. Але ж гаворка не пра існаванне, а пра актыўнае жыццё. Асабліва гэта датычыцца тых, хто жыве ў горадзе, у каго «ні кала, ні двара» — няма ніякага занятку.

Вы зноў можаце запярэчыць: у нас жа зараз шмат спецыялістаў, маладых людзей, якія не маюць работы, іх у першую чаргу трэба ўладкоўваць. Згодзен. Але маладых варта ўладкоўваць ў першую чаргу на работу з фізічнай нагрузкай.

У нас стварыўся шматмільённы клас пенсіянераў. Праблема іх занятасці і лёсу павінна штодзённа непакоіць наша грамадства. Бо доўга яшчэ захаваюцца агульныя сродкі вытворчасці, а значыць, патрэбны агульныя, можна сказаць, чалавечыя клопаты пра гэтых людзей.

**Станіслаў ШКАДЗІНСКІ,**
**інжынер-эканаміст.**
г. Мінск.

# Нават «хуткую» нельга выклікаць

Паважаная рэдакцыя, звяртаемся да цябе за дапамогай. А наша просьба заключаецца вось у чым. Дарогу ў пасёлак Чарна зрабілі вельмі добрую — нічога не скажаш. Затое ў наш пасёлак Гошч — ні прайсці, ні праехаць, хоць сюды не больш сотні метраў. Пракапалі канаву, паклалі трубы, прысыпалі іх крыху зямлёй — вось і ўся дарога. Зімой, у мароз, яна яшчэ «трывала», а вясной тут непралазна, як у восеньскую слоту.

Звярнуліся мы ў вучгас, каб навазілі пяску, гравію і зрабілі дарогу як след. Але нам адмовілі, спаслаўшыся на розныя прычыны. А ў Горкі колькі ні звярталіся, ні прасілі — толькі адны абяцанкі. У нашым жа пасёлку жывуць і рабочыя, і пенсіянеры. Калі хто захварэе, то нават «хуткую» нельга выклікаць — не даедзе.

**Васіль НЕСЦЕРАЎ, Яўгенія РАМАНАВА, Галіна ШКУРГАНАВА, жыхары п. Гошч Горацкага раёна (усяго 13 подпісаў).**

# Не капайце пад тэлефонам яму!

Вам трэба тэрмінова пазваніць у другі горад, а тэлефаністка міжгародняй станцыі незадаволена адказвае: «Няма сувязі...» Вы, зразумела, хочаце даведацца аб прычыне такой з'явы...

У вёсцы Барысава Кобрынскага раёна домаўладальнік Уладзімір Герус задумаў пашырыць прысядзібны ўчастак і перанёс плот. У выніку кабельная лінія міжгародняй сувязі апынулася ў агародзе. Але гаспадару гэтага было мала, і ён вырашыў выкапаць катлаван пад вадаём. Запрасіў бульдазерыста калгаса «Новы шлях» Мікалая Жарына, і той, груба парушыўшы правілы выканання земляных работ, абарваў тэлефонны кабель, прычыніўшы дзяржаве з-за прастою каналаў сувязі страты на суму 3.900 рублёў. Справу разгледзеў народны суд, вінаватыя былі пакараны. І толькі ўлічыўшы іх сямейнае і матэрыяльнае становішча (яны маюць на ўтрыманні адпаведна 4 і 7 дзяцей), суд вынес рашэнне спагнаць з У. Геруса і М. Жарына 1.659 рублёў. Можна было гэтага пазбегнуць? Безумоўна, калі б у калгасе «Новы шлях» працоўная дысцыпліна была на належным узроўні. А яшчэ калі б бульдазерыст М. Жарын не ўзяўся выконваць землярыйныя работы без дазволу.

На жаль, такіх прыкладаў хоць адбаўляй. У час завяршэння будаўніцтва газаправода ў калгасе «Кастрычнік» Клецкага раёна пры засыпцы катлавана быў пашкоджаны кабель міжгародняй сувязі майстрам СПМК-5 трэста «Белспецмантаж» В. Грабінскім. За нанесены ўрон нашаму вузлу выплачана 255 рублёў. У вёсцы Нагорнае Баранавіцкага раёна таксама пры пракладцы газаправода па віне майстра БУ-213 В. Вічыса дапушчаны абрыў пяці кабеляў, і за гэта Баранавіцкаму вузлу сувязі выплачана 1.108 рублёў. У Баранавічах, калі праводзілі рэканструкцыю цеплатрасы, прадстаўнікі швейнай фабрыкі па-варварску абышліся з лініяй важнага прызначэння.

Варта назваць яшчэ некалькі прозвішчаў аматараў капаць дзе ім уздумаецца. Гэта кіраўнікі трактарных брыгад В. Занько, І. Радзюк і інжынер Н. Боўт з калгаса імя Кірава Ганцавіцкага раёна, начальнік участка М. Салагубаў, прараб С. Капуцін, майстар БУ-213 С. Сарокін (г. Баранавічы), прараб ПМК Брэсцкага аблспажыўсаюза В. Муха, экскаватаршчык ПМК-14 Н. Бяроза і інш.

Чаму шмат такіх парушальнікаў? У многім з-за фармальных адносін да іх пракуратуры і адміністрацыйных камісій выканкомаў. Напрыклад, па факту абрыву міжгародняй лініі ў вёсцы Барысава справа была перададзена ў пракуратуру Кобрынскага раёна, якая ніякіх мер не прымала на працягу 8 месяцаў.

Адміністрацыйныя камісіі раённых і гарадскіх выканкомаў штрафуюць парушальнікаў нярэдка, ведаеце, на колькі? На 10—20 рублёў, а Баранавіцкі гарвыканком (смешна нават сказаць!) — на 5 рублёў. Таму некаторыя з іх на месца землярыйных работ прадстаўнікоў прадпрыемстваў сувязі нават не выклікаюць, а лічаць за лепшае заплаціць такі мізэрны штраф.

На маю думку, дэпутацкай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трэба змяніць артыкулы ў крымінальным і адміністрацыйным заканадаўствах, і за парушэнне Правіл аховы ліній сувязі вінаўных караць больш строга.

**Аляксандр КОЎШ,**
**электраманцёр Брэсцкага эксплуатацыйна-тэхнічнага вузла сувязі.**

КАШТОЎНЫЯ ПАПЕРЫ

**Рубрыку вядзе Аляксандр БУРДА, брокер фірмы «Аліна»**

# Дэпазітныя сертыфікаты

Нягледзячы на мудрагелістую назву, гэты від каштоўных папер — адзін з самых распаўсюджаных, асабліва сярод грамадзян. Што ж такое дэпазітны, або ашчадны, сертыфікат і навошта ён?

Калі ў вас ёсць грошы, якія вы не збіраецеся ў бліжэйшы час выкарыстаць, то вы можаце пакласці іх на тэрміновы ўклад у Ашчадбанк. Замест грошай атрымаеце ашчадную кніжку, па якой праз пэўны час зможаце забраць свой уклад разам з працэнтамі. Гэта сістэма ўсім добра знаёмая, але мае свае недахопы. Ашчадная кніжка — гэта ўсё ж не грошы: вы не можаце з яе дапамогай расплаціцца ў магазіне за буйную пакупку, атрымаць па ёй грошы ў іншым аддзяленні Ашчаднага банка, не можаце прадаць яе ці падарыць. Гэтых недахопаў пазбаўлены дэпазітны сертыфікат.

Знешне ён падобны на ашчадную кніжку і таксама выдаецца банкам замест укладу. Інакш кажучы, вы кладзяце грошы ў банк і атрымліваеце каштоўную паперу — дэпазітны сертыфікат, дзе запісана, якую суму, на які тэрмін і пад якія працэнты вы змясцілі. Калі вы, напрыклад, атрымалі (а дакладней — купілі) дэпазітны сертыфікат на 3 месяцы, і раптам вам спатрэбіліся грошы, то можаце або здаць сертыфікат назад у банк (не страціўшы пры гэтым працэнтаў), або прадаць сваю каштоўную паперу любому чалавеку ці арганізацыі. Гэта можна зрабіць, напрыклад, праз фондавую біржу. Такім чынам, дэпазітны сертыфікат можна шматразова купляць і прадаваць, г. зн. ён можа служыць сродкам плацяжу і разліку, як і грошы. Дэпазітны сертыфікат можна таксама падарыць, пакінуць у спадчыну і г. д. без усякіх абмежаванняў. У будучым, пасля заключэння міжбанкаўскага пагаднення і дагавораў банкаў з магазінамі, дэпазітны сертыфікат, куплены ў адным банку, можна будзе здаць у любы іншы, расплаціцца ім у магазіне, а таксама выкарыстаць пры іншых разліках.

З красавіка ў Мінску шэраг банкаў пачаў выпуск дэпазітных сертыфікатаў не толькі для прадпрыемстваў, але і для грамадзян (на невялікія сумы). Так, банк «Комплекс» прапануе сертыфікаты на 3 месяцы, 6 і на год адпаведна пад 25, 35 і 40 працэнтаў гадавых. «Прыорбанк» выпусціў дэпазітныя сертыфікаты тэрмінам ад 3 месяцаў да 3 гадоў пад розныя працэнты — ад 15 да 33. Пачаў такую дзейнасць і банк «Беларусь»: яго сертыфікаты — на тэрмін ад 3 месяцаў да года з працэнтамі ад 15 да 35. Чым большы тэрмін дэпазітнага сертыфіката, тым большы працэнт. Мінімальная сума ўкладу 3—5 тысяч рублёў, але можна пакласці і 100 тысяч, і больш. Як бачым, умовы камерцыйных банкаў значна больш выгадныя, чым Ашчаднага. А калі «патаргавацца» — можна дабіцца і яшчэ лепшых умоў. Так што варта падумаць, дзе трымаць грошы — пад мізэрныя працэнты на ашчаднай кніжцы ці ў дэпазітных сертыфікатах салідных банкаў.

**Па пытаннях набыцця і продажу дэпазітных сертыфікатаў, а таксама ўсіх іншых відаў каштоўных папер і валюты звяртайцеся ў брокерскую фірму «Аліна», тэл. 64-16-30.**



**ФЕРМЕР**

**Іван Сцяпанавіч Рубанік — самы вядомы фермер ва Ушацкім раёне. Пачынаў ён сваю справу шэсць гадоў назад. Тады ўзяў у арэнду 50 сотак зямлі, праз год — гектар. Сёння ў Івана Сцяпанавіча 17 гектараў зямлі, дзесяць галоў буйной рагатай жывёлы, шмат авечак, свіней, іншай жыўнасці.**

**Раённае кіраўніцтва пайшло насустрач жаданню Івана Сцяпанавіча ўзяць у Дзяржбанку крэдыт на 185 тысяч рублёў і купіць трактар. Грошы, як быццам, вялікія, але гаспадар не хвалюецца: сёлета ён мае намер прадаць не менш як 2 тоны мяса і 8 тон малака. Так што з запазычанасцю Дзяржаўнаму банку праблем не будзе.**

**НА ЗДЫМКУ: да Івана Сцяпанавіча РУБАНІКА (справа) прыехаў пацікавіцца яго справамі намеснік старшыні раённага Савета, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Уладзімір Іванавіч ХВОШЧ.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ

# Кароткі нарыс аб здрадзе

**За ноч халодны вецер выдзьмуў вясну з горада. Касірка ў зялёнай будцы чытала «Спид-инфо». Пыл перашкаджаў ёй. Але білет да Веткі я атрымаў.**
**Пакуль ехалі, адчувальна пацяплела. За гадзіну я пераехаў з канца зімы ў пачатак вясны.**
**Можна сказаць і так: з аднаго вымярэння ў другое, з нармальнага жыцця ў жыццё, якое такім назваць не паварочваецца язык. Наогул, гэта больш эмацыянальнае — нічога такога незвычайнага мною заўважана не было.**
**На аўтастанцыі чакалі аўтобуса вясковыя бабулі, як чакаюць яны яго па ўсёй Беларусі, а калі браць шырэй — па СНД. На вуліцы Батракова 75-міліметровая дывізіённая гармата цэліла ў жаночую залу цырульні.**
**Гармату фарбаваў у аксамітны колер мужчына. На Чырвонай Плошчы з машыны «давалі» курэй. У гастраноме мажны яшчэ дзед нетаропка разважаў з прадаўшчыцай аб вартасцях настойкі «Стралецкая» адносна настойкі «Любіцельскай».**
**Я ж кажу, нічога такога. Праўда, гэта знешне.**

### ІСЦІННАЯ ГІСТОРЫЯ ГОРАДА ВЕТКІ ЗА 6 АПОШНІХ ГАДОЎ

Пра Астраўцова я чуў ад знаёмага. Хто ён такі? У недалёкім мінулым — «нефармал», тады і цяпер — фельчар «хуткай дапамогі» з 35-гадовым стажам. Па водгуках, варты 2—3 урачоў сучаснай выпечкі. Што важна — мясцовы.

52-гадовы ўзрост для «нефармала», канешне, мнагавата. Праўда, прымусілі абставіны.

Нагадаю, да 1990 года Веткаўскі раён лічыўся нармальным. Тады, яшчэ нагадаю, трубілі аб Брагіне, Нароўлі, Хойніках. Гэта, праўда, не значыць, што той, каму належыць, сапраўднага становішча не ведаў. Проста да 1990 года інфармацыю ўдавалася трымаць пад грыфам «сакрэтна».

Але дэмакратыя пацыху развівалася, краіна станавілася больш адкрытай. У тым ліку для замежных дэлегацый. Адна такая (японцы і немцы) прыехала ў Ветку. Тады тут вымяралі радыяцыйны ўзровень прымітыўным ДП-5, армейскім прыборам, калі не памыляюся, зробленым дзесьці ў сярэдзіне 60-х.

Замежнікі выехалі за горад, памералі ўзровень і занепакоіліся. Паехалі да славутай цяпер Барталамееўкі. За вёскай ішла сяўба. Выйшлі на поле, зноў сталі вымяраць. І... панесліся да машыны. Добрыя беларускія мужыкі назіралі за гэтай сцэнай з кабін сваіх МТЗ. Напэўна, смяяліся. Замежнікам было не да смеху, яны надзелі гумавыя боты і ўсё ж давялі работу да канца. Зацікаўлены такімі іх паводзінамі, Мікалай Трафімавіч Астраўцоў папрасіў у іх паперу з вымярэннямі. Далі.

З наступнымі дэлегацыямі адбывалася тое самае. Астраўцову стала ясна, што справы — дрэнь. Але дакументы?

Як ні дзіўна, у нечым дапамог асабісты саветнік канцлера Коля прафесар Ленгфельдэр. Ён спыніўся ў Астраўцова і згадзіўся ўзяць таго на «экскурсію» па раёну. Тут трэба заўважыць, што сціплы фельчар стаў у Ветцы некаму моцна перашкаджаць. Напрыклад, першаму сакратару Галубоўскаму. Ён аддаў загад Астраўцова з немцамі не пускаць.

Але раён ёсць раён, тут кожны кожнаму чымсьці абавязаны, тым больш, што ў афіцэра міліцыі, які сказаў Астраўцову: «Мы цябе не бачылі, ты — нас», таксама дзеці. Словам, разам з прафесарам і яго супрацоўнікамі Мікалай Трафімавіч трапіў усё ў тую ж Барталамееўку.

Пачалі вымяраць фон. Вадаправодная вада — перавышэнне савецкага ЧДУ — у 2 разы. На тэрыторыі вёскі — 60—70 кюры на квадратны кіламетр (пасля дэзактывацыі). За вёскай 120—130 кюры. Якраз каб схапіцца за галаву: літаральна кожная гадзіна, праведзеная тут, набліжае канец. Як вы разумееце, Ленгфельдэр свае даныя Астраўцову прадаставіў.

Мікалай Трафімавіч рабіў і асабістыя назіранні: пачасціліся выпадкі насавых крывацёкаў у дзяцей, незразумелыя інсульты, кровазліцці. Прычым у знешне здаровых 40—50-гадовых людзей.

Прывычнымі пачалі станавіцца самазабойствы. Жыў-жыў мужык, усё ў яго было добра — раптам застрэліўся ці павесіўся. Чаму? З якой нагоды? Незразумела.

Ракавыя захворванні таксама сталі нормай. Пяць чалавек памерла толькі ў бальніцы і толькі за апошнія паўгода. Зараз памірае вадзіцель. Ён асуджаны, шанцаў няма. Рак шчытападобнай залозы.

Праўда, усе гэтыя сведчанні хадзілі па Ветцы ў якасці чутак. Народ хваляваўся — і толькі. Марылі аб павышанай аплаце, ільготах. Ну што ж, людзі ёсць людзі. Тым больш савецкія. Ім можна дараваць. Дараваць нельга тым, хто ўтойваў.

### ЯШЧЭ Б АДЗІН ВЫБУХ

У Ветцы добрая бальніца. Чатыры паверхі, ліфт, холы, карціны на сценах, мноства кабінетаў. Галоўны ўрач — Уладзімір Пятровіч Ляонаў. У дрэнным настроі, бо толькі што мінут дзесяць лаяўся з кімсьці па тэлефоне.

— Пішуць загады, а самі іх не выконваюць, — з горыччу. — Я тлумачу: ёсць загад Міністэрства аховы здароўя, згодна з якім Ветцы павінен дапамагаць абласны аддзел аховы здароўя. Нам трэба абследаваць хоць бы дзяцей. Звычайна ствараецца комплексная брыгада з акуліста, ЛОР-урача, дзіцячага неўрапатолага. Прыехалі два педыятры і спец па ультрагукавой дыягностыцы. Зрываем дзяцей з урокаў, тры тыдні не можам вырашыць пытанне. Ат, што гаварыць...

Сапраўды. Зараз не хапае 15 урачоў, але гэта паўбяды. Да канца года паедуць яшчэ 15 плюс 60 сярэдніх медработнікаў. Нельга чакаць такой жа актыўнасці ад астатняга насельніцтва раёна, многія застануцца. Тады паўстане пытанне: хто іх будзе лячыць?

Уладзімір Пятровіч едзе таксама.

Ён «марыць»: каб яшчэ адзін выбух, бо нам добра працуецца толькі ў экстрэмальным становішчы. Калі нібы ідзеш у атаку.

Начальства ездзіць толькі з замежнымі дэлегацыямі ў якасці ганаровага эскорту. За шэсць гадоў з медВНУ сюды размеркавалі 5—6 спецыялістаў. На сённяшні дзень засталіся двое.

— Мы накапілі дастаткова матэрыялу, каб даць адказ: ёсць сувязь паміж шматлікімі паталогіямі і Чарнобылем ці няма. Ніхто не хоча браць адказнасць на сябе. А мы лечым па шаблону, без уліку радыяцыі. Пара задумацца і штосьці рабіць.

Мне таксама здаецца, што шэсць гадоў — тэрмін дастатковы. Тым больш, матэрыялу, як запэўніў Ляонаў, хапае. Толькі ці праўда, што ніхто не зрабіў высноў? Зрабілі. Скажам, яшчэ ў 1986 годзе ваенныя рэкамендавалі тэрмінова адсяліць Ветку і раён. Праўда, ветры ў «вярхах» тады дзьмулі іншыя.

Думаю, і Ляонаў высновы для сябе зрабіў. На жаль, мне пра іх не паведаміў. Напэўна, і яму без патрэбы быць «стрэлачнікам». Усё ж ён больш адміністратар, чым урач. А да пенсіі далёка.

Наогул, я Уладзіміра Пятровіча па-чалавечы разумею. Хто стане першаму сустрэчнаму даваць інфармацыю, якая нядаўна была дзяржаўнай тайнай? Тым больш, што ўсе патрэбныя дакументы я атрымаў у іншым месцы, так бы мовіць, неафіцыяльна. І акрэслілася такая сітуацыя.

### ДАКУМЕНТЫ І ЛІЧБЫ

Іх Астраўцоў здабываў нелегальна. Як — не так і важна. Галоўнае, што гэта копіі дакументаў, якія накіроўваліся ў сталіцу. Так што верыць ім можна. Дарэчы, калі потым веткаўчане «штурмавалі» Савет Міністраў, сталічныя чыноўнікі здзіўляліся амаль поўнай ідэнтычнасці сваіх даных з «нефармальнымі». Вядома ж — крыніца адна.

Значыць, лічбы. Магчыма, яны самі па сабе надакучлівыя. Але вы іх усё ж паглядзіце. Ну, хоць краем вока.

У 1985 годзе на 10 тысяч насельніцтва зарэгістравана 14,7 выпадкаў інваліднасці, у 1990 — 48,0. Гэта — сярод рабочых і служачых. Калгаснікі — адпаведна 4,0 і 43,0. (Заўважу, дагэтуль рост інваліднасці з радыяцыяй не звязваюць).

Смяротнасць нованароджаных у 1986 годзе — 4,2 на тысячу, у 1990 — 9,3.

Захворванні на туберкулёз: 1985 год (на 100 тысяч насельніцтва) — 176,0, 1990 — 1.715,0. Пры гэтым ні ў аднаго хворага палачкі не знайшлі. Тлумачэнне вельмі простае: выпаўшыя ў раёне гарачыя часцінкі прапальваюць у лёгкіх дзірку, якая на рэнтгене бачыцца ачагом туберкулёзу. Так і пішуць: туберкулёз.

Агульная смяротнасць у 1991 годзе; студзень, — нарадзілася 14, памерла 69; люты — 27 і 48; сакавік — 20 і 54; красавік — 19 і 45. Не варта, думаю, звязваць гэта толькі з масавым ад'ездам моладзі.

Паталогія шчытападобнай залозы ў дзяцей: у 1985 годзе — не адзначана, у 1990-м — з агульнай колькасці дзяцей да 14 гадоў паталогія адзначана больш чым у 4 тысяч. Кожны другі мае 1 і 2 ступень захворвання. Калі не лячыць, то 2 ступень пераходзіць у 3-ю, а гэта — рак.

Выпадкі зніжэння ахоўных уласцівасцей арганізма дзяцей: 1985 год — няма, 1988-ы — 5 працэнтаў, 1989-ы — 14 працэнтаў, 1990-ы — 27 працэнтаў.

У 1989—90 гадах 50 працэнтаў дзяцей мелі пры нараджэнні дэфекты развіцця. Жанчыны сталі баяцца раджаць. Да іх паслуг — апарат, які дазваляе вызначыць стан плода. Калі знойдзена адхіленне ад нормы, прапануецца рабіць аборт ці выклікаць штучныя роды. А наогул, калі плод і нармальны, гарантый няма ўсё роўна. Кожная другая жанчына неданошвае. Зусім нядаўна прымалі роды двойні. Адно дзіця было ўжо мёртвае, другое пажыло некалькі гадзін.

Колькасць псіхічна хворых на 100 тысяч насельніцтва: 1985 год — 406,6, 1990-ы — 4.194,0. Гэта значыць, амаль кожны 10-ы чалавек. Тут, праўда, трэба ўдакладніць: зарэгістраваны толькі тыя, хто звярнуўся ў паліклініку і быў змешчаны ў стацыянар.

Сказаць, што гэтыя лічбы страшныя, — нічога не сказаць. Гэта ясна і так.

У галаве рэфрэнам гучыць думка: ведалі, але маўчалі. Чаму?

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

